# Падзякі

Гэтае даследаванне было падтрыманае грантам Пасольства Нідэрландаў у Польшчы і выкананае Цэнтрам Астрагорскага ў межах падрыхтоўкі да канферэнцыі “Адукацыя як права чалавека: мадэрнізацыя вышэйшай адукацыі ў адказ на выклікі XXI стагоддзя”. Канферэнцыя была арганізаваная Цэнтрам Астрагорскага, Пасольствам Нідэрландаў і Пасольствам Польшчы ў Мінску 13 снежня 2016 года.

Цэнтр Астрагорскага хацеў бы падзякаваць прарэктару па навукова-метадычнай працы Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы Ігару Цітовічу і старшыні незалежнага беларускага Балонскага камітэта Уладзіміру Дунаеву за іх каментары да ранейшых версій дакумента. Аўтары таксама ўдзячныя ўсім удзельнікам канферэнцыі за выказаныя ідэі.

# Рэзюмэ


- Беларусь далучылася да Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі ў 2015 годзе і прыняла на сябе абавязацельствы па выкананні Дарожнай мапы рэфармавання вышэйшай школы да 2018 года.

- Графік рэалізацыі Дарожнай мапы не вытрымліваецца, і гэта стварае рызыку невыканання абавязацельстваў беларускага боку ў вызначаны тэрмін. Для паскоранай рэалізацыі Дарожнай мапы рэкамендуецца:

- Прыбраць бюракратычныя перашкоды для мабільнасці і павялічыць дзяржаўнае фінансаванне выязной акадэмічнай мабільнасці студэнтаў і выкладчыкаў.

- Наладзіць сацыяльнае партнёрства працадаўцаў і ВНУ, стымуляваць працаўладкаванне выпускнікоў праз падатковыя механізмы.

- На заканадаўчым узроўні замацаваць гарантыі свабоды навучання і выкладання ад вонкавага ўмяшання, інстытуцыйную аўтаномію ВНУ і свабоду стварэння і функцыянавання студэнцкіх арганізацыяў.

- Забяспечыць пастаяннае інфармаванне зацікаўленых бакоў і грамадскасці пра працэс рэформы; далучыць да дзейнасці Кансультатыўнай групы па Дарожнай мапе як мага шырэйшы спектр стэйкхолдэраў і наладзіць з імі рэгулярны экспертны дыялог.

# Еўрапейская прастора вышэйшай адукацыі: рэгіянальны кантэкст і далучэнне Беларусі

На канферэнцыі 47-мі міністраў адукацыі ЕПВА ў Ерэване 14-15 мая 2015 года Беларусь прыняла на сябе абавязацельствы па выкананні Дарожнай мапы рэфармавання вышэйшай школы. Дарожная мапа прадугледжвае мадэрнізацыю сістэмы прафесійных кваліфікацый, яе гарманізацыю з Еўрапейскай рамкай кваліфікацый і ўвядзенне трохступеневай архітэктуры вышэйшай адукацыі. Сістэма кантролю якасці вышэйшай адукацыі мусіць быць рэфармаваная ў адпаведнасці з еўрапейскімі стандартамі, дзеля чаго неабходна стварыць незалежнае агенцтва.

> Беларусь прыняла на сябе абавязацельствы па выкананні Дарожнай мапы рэфармавання вышэйшай школы

Беларусь павінна ўкараніць Балонскія інструменты забеспячэння празрыстасці і прызнання вынікаў навучання: ECTS і дадатак да дыплома (Diploma Supplement). Далучэнне да Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі таксама прадугледжвае дыверсіфікацыю міжнароднай мабільнасці выкладчыкаў і студэнтаў, развіццё сістэмы бесперапыннай адукацыі, забеспячэнне сацыяльнай роўнасці ў доступе да вышэйшай адукацыі і абмежаванне выкарыстання механізму прымусовага размеркавання выпускнікоў ВНУ, характэрнага для Беларусі. Не ў апошнюю чаргу, Беларусь павінна ўкараніць у сістэму адукацыі фундаментальныя акадэмічныя каштоўнасці.

Праграма рэфармавання беларускай вышэйшай адукацыі прадугледжвае механізм міжнароднай падтрымкі і кансультацый у працэсе рэалізацыі Дарожнай мапы да 2018 года, калі на міністэрскай канферэнцыі ў Парыжы будзе разгледжаная выніковая справаздача аб імплементацыі Дарожнай мапы.[1]

Для падтрымкі яе імплементацыі была створаная Кансультатыўная група па Дарожнай мапе,[2] якая ўключае прадстаўнікоў урадаў, наднацыянальных інстытутаў і грамадскіх арганізацыяў краінаў-сябраў ЕПВА, а з беларускага боку – трох прадстаўнікоў з Міністэрства адукацыі, Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Кансультатыўная група садзейнічае беларускім уладам у імплементацыі Дарожнай мапы і распрацоўцы асобных абласцей адукацыйнай палітыкі, а таксама інфармуе Назіральную групу Балонскага працэсу пра прагрэс Беларусі ў імплементацыі Дарожнай мапы.

Вынікам гарманізацыі адукацыйных стандартаў Беларусі і еўрапейскіх краінаў, як чакаецца, будзе вышэйшая якасць адукацыі, павышэнне магчымасцяў асобаў для навучання і працаўладкавання, глыбейшая інтэграцыя ў еўрапейскую і сусветную адукацыйную прастору, уключэнне ў працэс адукацыі асобаў розных сацыяльных групаў, у тым ліку ўразлівых. Важнай асаблівасцю Балонскага працэсу таксама ёсць тое, што ён прадугледжвае актыўны ўдзел зацікаўленых бакоў, як дзяржаўных, так і недзяржаўных.

---

1 Дунаев, Владимир, 2016. Образование: между реформами и тоской по «золотому веку», Белорусский ежегодник 2016. С. 174-181, URL: http://nmnby.eu/yearbook/get/yearbook2016.pdf

2 Консультативная группа по Дорожной карте, URL: http://ag2.bsu.by/ru/main.aspx?guid=4261



Канферэнцыя міністраў адукацыі ЕПВА і Чацвёрты Балонскі форум
14-15 мая 2015 года, Ерэван, Арменія (© www.bsu.by)

Для Беларусі ў шэрагу адзначаных эфектаў далучэння да ЕПВА асабліва істотнай з’яўляецца інтэрнацыяналізацыя вышэйшай адукацыі. Краіна доўгі час знаходзілася ў ізаляцыі ад сусветных адукацыйных працэсаў, у першую чаргу з-за палітычнай напружанасці ў стасунках з Захадам, таму надзвычай важную ролю мае павышэнне мабільнасці студэнтаў і выкладчыкаў, а таксама перайманне лепшых практык арганізацыі акадэмічнага жыцця. Істотнай праблемай з’яўляецца неадэкватнасць сістэмы адукацыі патрэбам рынку працы і захаванне прымусовага размеркавання ў новых эканамічных рэаліях. Цэнтралізаванае кіраванне адукацыяй, якое шмат у чым захавалася з савецкіх часоў, патрабуе ўвядзення прынцыпаў акадэмічнай і інстытуцыйнай аўтаноміі.

Балонская дэкларацыя не з’яўляецца абавязковай для выканання нормай. Кожная краіна сама вызначае прыярытэтнасць выканання прынцыпаў ЕПВА для нацыянальнай сістэмы вышэйшай адукацыі, адаптуе іх да нацыянальных традыцый і вызначае тэрміны рэалізацыі. Якіх-небудзь санкцый за парушэнне тэрмінаў або чарговасці мерапрыемстваў няма, бо ключавую ролю адыгрывае зацікаўленасць самой краіны ў дасягненні пастаўленых мэтаў.[3]

Большасць з краінаў поставецкага рэгіёну далучылася да Балонскага працэсу на 10 гадоў раней за Беларусь: Расія ў 2003, Арменія, Азербайджан, Украіна, Малдова і Грузія ў 2005, Казахстан у 2010 годзе. Удзел у Балонскім працэсе тут стаў часткай знешняй палітыкі і геапалітыкі, бо ўспрымаўся як элемент еўрапейскай інтэграцыі.[4] Менавіта таму расійскае кіраўніцтва з асцярогай ставіцца да ЕПВА і не спяшаецца глыбока рэфармаваць сістэму адукацыі, у той час як еўраарыентаваныя Украіна і Грузія разглядаюць

[3] Жук, Александр, 2010. Высшее образование Республики Беларусь: от Болонского процесса к европейскому пространству высшего образования, *“Вышэйшая школа”*, № 5, URL: <http://elib.bspu.by/bitstream/doc/307/1/%D0%92%D0%A8%2c%E2%84%965%2c%202010%2c%D1%81.3-9.pdf>

[4] Luchinskaya, Daria, and Ovchynnikova, Olena, 2011. The Bologna Process policy implementation in Russia and Ukraine: similarities and differences, *European Educational Research Journal,* Volume 10, Number 1.

рэформу адукацыі як частку еўрапейскай інтэграцыі. Тым не менш, краіны ўсё яшчэ знаходзяцца на шляху да поўнага выканання Балонскіх прынцыпаў і маюць цяжкасці ў пэўных накірунках.

Нават у Грузіі, якая лічыцца лідарам еўрапейскай інтэграцыі сярод краінаў Усходняга Партнёрства, імплементацыя Балонскіх стандартаў часта носіць фармальны характар, бо адбылася хутчэй як ініцыятыва палітычных элітаў “зверху”, чым патрабаванне акадэмічнай супольнасці “знізу”.[5]

[5] Lezhava, Diana, 2016. Bologna process: Europeanization of Georgia’s higher education system (working paper), URL: < http://css.ge/files/Papers/FES_paper_-_Bologna_Process_DL.pdf >

# Праблемы выканання Дарожнай мапы

Дзяржаўнае кіраўніцтва ў сферы адукацыі адзначае, што ізаляцыя ад працэсаў, якія адбываюцца ў Еўропе і ў астатнім свеце, немагчымая і непрадуктыўным. Але Беларусь хацела б пазбегнуць балючай ломкі сістэмы адукацыі і “бяздумнага капіявання заходніх мадэляў”, што неаднаразова паўтараў Аляксандр Лукашэнка. Сярод галоўных пагрозаў інтэрнацыяналізацыі вышэйшай адукацыі для Беларусі ён адзначыў уцечку мазгоў і страту “патрыятычнага, маральна-этычнага, эстэтычнага выхавання”, што можна разумець як актыўны ўдзел дзяржавы ў ідэалагічнай падрыхтоўцы моладзі і прышчапленні ёй пэўных палітычных поглядаў.[6] Такая пазіцыя вышэйшага кіраўніцтва з’яўляецца істотным фактарам, які запавольвае інтэграцыю Беларусі ў ЕПВА.

> Беларусь хацела б пазбегнуць балючай ломкі сістэмы адукацыі і “бяздумнага капіявання заходніх мадэляў”, што неаднаразова паўтараў Аляксандр Лукашэнка

Апроч таго, прапановы Міністэрства адукацыі па рэформе адпаведнага заканадаўства суправаджаюцца сур’ёзнымі дыскусіямі з іншымі міністэрствамі і ведамствамі, якія часта супраціўляюцца пэўным новаўвядзенням.[7] Міністэрства прызнае, што з моманту ўступлення ў ЕПВА ў 2015 годзе зроблена не так шмат для імплементацыі Балонскіх інструментаў.

Для маніторынгу і колькаснай ацэнкі прагрэсу выканання Дарожнай мапы група экспертаў Грамадскага Балонскага камітэта распрацавала метадалогію, якая дазваляе вызначыць індэкс імплементацыі Дарожнай мапы. Структура індэкса супадае са структурай Дарожнай мапы. Яе часткі, якія тычацца структурных рэформаў і інтэрнацыяналізацыі, ацэньваліся па 3 напрамках: адпаведнасць графіку Дарожнай мапы, адпаведнасць нормам ЕПВА, празрыстасць і дэмакратычнасць працэсу.

| Элементы дарожнай мапы | Працэс | Стан | Празрыстасць | Выніковае значэнне |
|---|---|---|---|---|
| **Сістэма кваліфікацый** | 10% | 0% | 0% | 3,3% |
| **Забеспячэнне якасці** | 12,5% | 40% | 0% | 25,8% |
| **Прызнанне** | 21% | 20,5% | 0% | 13,8% |
| **Інструменты забеспячэння празрыстасці** | 11% | 0% | 20% | 10,3% |
| **Інтэрнацыяналізацыя і мабільнасць** | 0% | 20,5% | 0% | 6,8% |
| **Бесперапынная адукацыя і сацыяльнае вымярэнне** | 0% | 0% | 0% | 0% |
| **Фундаментальныя каштоўнасці ЕПВА** | 1,92% | 0,07% | 0% | 0,66% |

6 Лукашенко: не следует бездумно копировать западную систему образования, URL: <http://naviny.by/rubrics/society/2016/04/21/ic_news_116_473850>

7 Круглый стол “Реализация инструментов ЕПВО в национальной системе образования”, URL: <http://bolognaby.org/index.php/sobitiya/novosti/595-kruglyj-stol-realizatsiya-instrumentov-epvo-v-natsionalnoj-sisteme-obrazovaniya>

Варта адзначыць, што Кансультатыўная група па Дарожнай мапе мае іншую, больш аптымістычную ацэнку прагрэсу ў рэалізацыі дарожнай мапы,[8] аднак яе працоўныя дакументы не даступныя публічна і не дазваляюць зрабіць параўнанне.

Улічваючы, што тэрмін рэалізацыі Дарожнай мапы складае 3 гады, а вынікова значэнне Індэкса па стане на 30 чэрвеня 2016 года – 8,7%, эксперты робяць выснову, што імплементацыя Дарожнай мапы ўсё яшчэ знаходзіцца на пачатковым узроўні, а ў некаторых кірунках практычна не пачыналася.

## Архітэктура вышэйшай адукацыі, сістэмаў кваліфікацый, ацэнкі якасці і прызнання адукацыі

Як адзначаюць эксперты, распрацоўка і ўкараненне нацыянальнай рамкі кваліфікацый, сістэмы кантроля якасці, крэдытнай сістэмы і дадатку да дыплома замаруджваецца па незразумелых прычынах. Міністэрства працы тры гады працуе над нацыянальнай рамкай кваліфікацый і пілотнымі праектамі прафесійных стандартаў, але праца не завершаная; невядомымі застаюцца планы па рэфармаванні Дэпартамента якасці. Міністэрства адукацыі распрацоўвае новую рэдакцыю Кодэкса аб адукацыі, але ў даступных для аналізу праектных версіях каштоўнасці Балонскага працэсу не адлюстраваныя, а абмеркаванне з акадэмічнай грамадскасцю і стэйкхолдэрамі не праводзіцца.[9]

На шляху выяздной мабільнасці студэнтаў і выкладчыкаў існуюць бар'еры, якія створаныя ведамствамі, што не маюць непасрэднага дачынення да сістэмы адукацыі

Маніторынг, праведзены праз год пасля далучэння Беларусі да Балонскага працэсу ў траўні 2016 года паказаў, што большасць беларускіх ВНУ не палічылі патрэбным прадставіць на сваіх сайтах працу па ўсталяванні інструментаў ЕПВА ці хаця б агульную даведачную інфармацыю пра ЕПВА і Балонскі працэс. 44 ВНУ з 54 так і не завяршылі гэтую працу праз год пасля далучэння Беларусі да ЕПВА. З 10 ВНУ, якія зрабілі спробу выканаць даручэнне Міністэрства адукацыі, 7 падышлі да задачы фармальна.[10]

## Мабільнасць студэнтаў і выкладчыкаў

На шляху выяздной мабільнасці студэнтаў і выкладчыкаў існуюць бар'еры, якія створаныя ведамствамі, што не маюць непасрэднага дачынення да сістэмы адукацыі. Так, рэкламная дзейнасць замежных навучальных устаноў рэгламентуецца Законам Рэспублікі Беларусь аб супрацьдзеянні гандлю людзьмі, распрацоўшчыкам якога з'яўляецца Міністэрства ўнутраных спраў. Міністэрства адукацыі не мае права тлумачэння норм гэтага прававога акту.

---

[8] Выступ прарэктара РІВШ Ігара Цітовіча на 4-й трохбаковай галандска-польска-беларускай канферэнцыі "Адукацыя як права чалавека: мадэрнізацыя вышэйшай адукацыі ў адказ на выклікі XXI стагоддзя" 13 студзеня 2016 года ў Мінску.

[9] Ветохин, Сергей, 2016. Структурные изменения в высшей школе Беларуси для достижения целей Дорожной мапы, в П. Терешкович (ред.), "Общественное участие в модернизации высшей школы: роль гражданского общества в имплементации Дорожной карты реформирования высшего образования Беларуси: материалы международной научно-практической конференции", Вильнюс.

[10] Болонский процесс на сайтах беларуских вузов, URL: <http://bolognaby.org/index.php/issledovanija-analitika/533-bolonskij-protsess-na-sajtakh-belaruskikh-vuzov>

Сёння беларускія студэнты збольшага карыстаюцца грантамі, якія даюць праграмы Еўрапейскага Саюза. Дзяржаўнае фінансаванне акадэмічнай мабільнасці застаецца вельмі сціплым і не дазваляе забяспечыць выхад на запланаваныя ў ЕПВА паказчыкі студэнцкай мабільнасці ў 20% студэнтаў да 2020 года.

## Сацыяльнае вымярэнне і рынак працы

Інстытут размеркавання студэнтаў бюджэтнай формы навучання, які функцыянуе ў Беларусі з савецкіх часоў, не адпавядае нормам ЕПВА. Але ён мае быць рэфармаваны не толькі па гэтай прычыне. Абавязковае размеркаванне відавочна не адпавядае запатрабаванням сучаснай эканомікі. Змяншэнне ролі дзяржаўнага сектара і стагнацыя некаторых яго галінаў вядуць да таго, што размяркоўваць выпускнікоў папросту няма куды. Апроч таго, існуе праблема адпаведнасці адукацыйнай прапановы ВНУ запатрабаванням рынку працы. Распаўсюджанай праблемай для выпускнікоў ВНУ застаецца першае працаўладкаванне, бо працадаўца патрабуе наяўнасці досведу працы.

## Акадэмічныя свабоды і прынцыпы ўніверсітэцкай аўтаноміі

Большасць ВНУ ў Беларусі з'яўляюцца дзяржаўнымі інстытутамі, якія цэнтралізавана выконваюць распараджэнні вышэйшай выканаўчай улады. Рэктары прызначаюцца прэзідэнтам і знаходзяцца ў падпарадкаванні палітычнага кіраўніцтва. Універсітэты ўсё яшчэ выкарыстоўваюцца як інструмент палітычнага выхавання праз курсы дзяржаўнай ідэалогіі, моладзевую арганізацыю БРСМ, прымусовыя працы і ўдзел у дзяржаўных святах і палітычных мерапрыемствах.

У дадзены момант студэнцкае самакіраванне (ССК) існуе ў кожнай вышэйшай навучальнай установе Беларусі, аднак і дакументальна замацаваныя прынцыпы яго функцыянавання, і дзейнасць органаў ССК супярэчаць фундаментальным прынцыпам ЕПВА. У прыватнасці,




Студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта пратэстуюць супраць імітацыі самакіравання (© www.kp.by)

статутныя дакументы ўсіх органаў ССК даюць магчымасць шырокага адміністратыўнага ўплыву на дзейнасць: ад няпэўных фармулёвак пра ўзаемадзеянне да прамога ўказання на неабходнасць узгадняць кандыдатуры кіраўнікоў органаў ССК і планаў дзейнасці з упаўнаважанымі прадстаўнікамі адміністрацыі ВНУ.[11]

Беларускае заканадаўства не прадугледжвае механізмаў актыўнага ўдзелу грамадзянаў і грамадскіх арганізацыяў у кіраванні вышэйшай адукацыяй. Усе інстытуцыі такога кшталту ствараюцца з санкцыі выканаўчай улады. Грамадзянская супольнасць у большай ступені здольная ўплываць на рашэнні ўладаў праз знешіх актараў – у першую чаргу Еўрапейскі Саюз.

[11] Кузьміч, Аляксандр. Студэнцкае самакіраванне ў Беларусі: існуючыя тэндэнцыі развіцця, в П. Терешкович (ред.), “Общественное участие в модернизации высшей школы: роль гражданского общества в имплементации Дорожной карты реформирования высшего образования Беларуси: материалы международной научно-практической конференции”, Вильнюс. С.81.

# Рэкамендацыі па выкананні Дарожнай мапы

Для выкананне Дарожнай мапы ў вызначаны тэрмін адказным інстытуцыям варта ўлічыць наступныя рэкамендацыі:

- **Сацыяльнае вымярэнне і рынак працы**
  Сістэма абавязковага размеркавання павінна застацца толькі ў тых галінах, дзе дзяржава мае вострую неабходнасць у кадрах. Варта заканадаўча замацаваць стымуляванне працадаўцаў да працаўладкавання выпускнікоў праз ільготнае падаткаабкладанне і іншыя меры фіскальнай палітыкі; стымуляванне вышэйшых навучальных установаў да практыкаарыентаванай адукацыі і зацікаўленасці ў працаўладкаванні выпускнікоў праз маніторынг якасці адукацыі, рэйтынгаванне і фінансаванне ВНУ у залежнасці ад узроўню працаўладкавання выпускнікоў. Для разумення абітурыентамі стану рынку працы і наяўнасці прафесіяў неабходна ўвесці інстытут прафесійнай кансультацыі ў апошніх класах школы.

- **Забеспячэнне ўмоваў для мабільнасці студэнтаў і выкладчыкаў**
  Варта прыбраць бюракратычныя перашкоды для мабільнасці ў супрацоўніцтве з зацікаўленымі органамі ўлады. Дзяржаўнае фінансаванне акадэмічнай мабільнасці павінна быць істотна павялічана. Для прадухілення ўцечкі мазгоў неабходна прапанаваць студэнтам перспектывы прафесійнай рэалізацыі праз інструменты сацыяльнага партнёрства з працадаўцамі.

- **Забеспячэнне акадэмічных свабод і прынцыпаў універсітэцкай аўтаноміі**
  На заканадаўчым узроўні варта замацаваць гарантыі правоў інстытуцый і індывідаў на свабоду вучыць, вучыцца і даследаваць, і абарону ад вонкавага ўмяшання з боку ўладаў. Інстытуцыйная аўтаномія мусіць быць замацаваная ў арганізацыйнай, фінансавай, кадравай і акадэмічнай сферы. Варта таксама ліквідаваць адміністратыўныя перашкоды для стварэння і свабоднага функцыянавання студэнцкіх саюзаў, прафсаюзаў і іншых грамадскіх арганізацый.

- **Забеспячэнне адкрытасці і ўключэнне ў працэс рэформы шырокага кола зацікаўленых бакоў**
  Установам, адказным за выкананне Балонскіх прынцыпаў, варта забяспечыць пастаяннае інфармаванне зацікаўленых бакоў і грамадскасці пра працэс рэформы. Варта далучыць да дзейнасці Кансультатыўнай групы па Дарожнай мапе як мага шырэйшы спектр стэйкхолдэраў рэформаў, уключна з прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці, бізнэсу, студэнцкіх асацыяцый, і наладзіць з імі рэгулярны экспертны дыялог.

# Пра аўтара

**Вадзім Смок** – каардынатар праектаў і аналітык Цэнтра Астрагорскага, даследчык інстытута “Палітычная сфера”. Таксама з’яўляецца каардынатарам праграмы “Еўрапейскія даследаванні” Беларускага Калегіума. Вадзім атрымаў бакалаўрскую і магістарскую ступені ў галіне палітычных навук у Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ў Вільні.

# Пра Цэнтр Астрагорскага

Цэнтр Астрагорскага – прыватная некамерцыйная арганізацыя, якая займаецца праблемамі, з якімі сутыкаецца Беларусь у часе свайго пераходу да рынкавай эканомікі і вяршэнства права. Праца цэнтра накіраваная на дасягненне практычных вынікаў.

Цэнтр з’яўляецца першай “фабрыкай думкі”, заснаванай беларусамі, якія атрымалі адукацыю на Захадзе і жывуць у Беларусі і Еўрапейскім саюзе. Аналітыкі, якія працуюць у Мінску, Варшаве, Лондане і Берліне, разумеюць выклікі трансфармацыі ў рэгіёне, бо самі прайшлі праз іх. Атрымаўшы адукацыю ў вядучых універсітэтах свету, эксперты цэнтра выпрацавалі культуру і практычныя здольнасці, неабходныя для аналізу паводле заходніх стандартаў.

Цэнтр мае на мэце папулярызацыю рэформаў і мыслення, якое дапаможа зрабіць эканоміку больш канкурэнтнай, кіраванне больш эфектыўным, а таксама будзе спрыяць інтэграцыі беларускіх навукоўцаў і аналітыкаў у міжнародную навуковую супольнасць.

Інтэрнэт-старонка Цэнтра Астрагорскага – www.ostrogorski.org.

